// **БЮЛЕТЭНЬ**

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 7 (42) | 1-га чэрвеня 1930 году | № 7 (42)

## ЗЬМЕСТ

1. Аб перавыбару нізовых ячэяк саюзу-рабачкомаў.
2. Інструкцыя аб перавыбарах нізовых ячэяк саюзу.
3. Аб прысылцы картак складу ўзноў абраных рабачкомаў.

*Усім рабачкомам, раённым і акруговым інструктарам саюзу Сельгаслесрабочых.*

## Паважаныя таварышы!

Згодна дырэктывы ЦК саюзу і па пастанове Прэзыдыуму БРК на працягу чэрвеня і ліпеня павінны быць праведзены перавыбары нізовых ячэек рабачкомаў.

Ва ўмовах ажыцьцяўленьня вялічэзных задач сацыялістычнага будаўніцтва перавыбары саюзных органаў-рабачкомаў набываюць вялікае палітычнае значэньне.

Гэтыя перавыбары павінны быць праведзены, як выключная баявая палітычная кампанія і зьявіцца палітычным экзамінам і генэральным аглядам работы саюзных органаў, павінны паказаць, як на справе выкананы і выконваюцца асноўныя рашэньні партыі, пленумаў УсеЦСПС, ЦК саюзу, ЦСПСБ і БРК аб чарговых заданах, новых мэтадах і формах прафсаюзнай работы, як на справе перабудована работа і ажыцьцяўляецца задача паваротам тварам да сацыялістычнай вытворчасьці, на выкананьня генэральнай лініі партыі ў справе сац. будаўніцтва нашай краіны і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Перавыбары рабочых камітэтаў у гэтым годзе павінны праходзіць пад кутом погляду: правядзеньня рашучай бязьлітаснай барацьбы-з прав-апартуністычным ухілам ад партлініі, як найбольш небясьпечным на даным этапе, не паслабляючы аднačасова з гэтым барацьбы з „левымі“ загібамі ад лініі партыі, асабліва завастраючы ўвагу шырокіх мас сельгаслесрабочых на неабходнасьці рашучай барацьбы з праяўленьнем ухілаў ад партлініі ў прафрабоце, барацьбу з клясавымі скажэньнямі ў вёсцы і на ўзмацненьне саюзу з серадняком, барацьбу з рвацкімі настроямі, хвасьцізмам і г. д.

а) Мабілізацыі шырокіх мас рабочых саўгасаў, лясной гаспадаркі, батрацтва і спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, зьніжэньне сабекошту, паляпшаньне якасьці прадукцы, падняцьцё вытворчасьці працы, поўнае зьнішчэньне прагулаў і спазьненьняў на вытворчасьці, разьвіцьцё ініцыатывы і вытворчасьці рабочых мас у справе рабочага вынаходства, разьвіцьцё сацыялістычнага спаборніцтва і ленінскага прызыву ўдарніцтва.

б) Разьвіцьцё шырокай пралетарскай крытыкі і самакрытыкі і ажыцьцяўленьня сапраўднай саюзнай дэмакратыі.

в) Падвядзеньня вынікаў ў правядзеньні вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі і падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі.

г) Мабілізацыі мас сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў навакол калгаснага будаўніцтва, замацаваньня посьпехаў на калг ным фронце і рашучай бараць-

бы з скрыўленьнем лініі партыі і дапушчанымі перагібамі ў пытаньнях калгаснага будаўніцтва, дапамогі сельсавета, ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, выкананьне кантрольнай лічбы ўцягненьня батрацтва ў калгасы 60.000 чалавек да канца 1930 г.

д) Узмацненьне культмасавай палітыка-выхаваўчай работы сярод сельска-гаспадарчых рабочых і асабліва на поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых, батрацтва і пастушаства да канца 1930 году.

### Тэрмін перавыбраў.

Перавыбары павінны быць праведзены:

1) Рабачкомаў саўгасаў-на працягу чэрвеня;

2) Местачковых рабачкомаў і той часткі сельрабачкомаў, якія не перааб-раны, ці не абраны ўноў-на працягу чэрвеня і ліпеня. Час перавыбараў сельрабачкомаў устанаўляць так, каб яны (перавыбары) былі праведзены пасьля сканчэньня асноўнай работы па заключэньні працдагавораў.

3) Мясцкому зямельных органаў і с./г. каапэрацыі ў ліпені.

4) Узьвязку з вырашэньнем пытаньня аб рэарганізацыі лясной гаспадаркі, перавыбары рабачкомаў лясьніцтва і лесараспрацовак будуць праводзіцца пазьней, прыкладна ў жніўні-верасьні.

5) Дакладныя календарныя пляны перавыбараў, у межах устаноўленых БРК тэрмінаў, распрацоўваюцца на акруговых нарадах інструктароў і брыгад БРК і АПБ

### Дапамога з боку БРК саюзу СГЛР і другіх саюзаў.

Для кіраваньня і дапамогі ў правядзеньні перавыбараў БРК накіроўвае ў акругі сяброў Прэзыдыуму і адказных працаўнікоў. Акрінструктары на мясцох дамаўляюцца з АПБ аб вылучэньні рабочых брыгад з другіх саюзаў для дапамогі ў правядзеньні перавыбараў рабачкомаў саюзу СГЛР. Па прыездзе ў акругі сяброў БРК, пасьля ўзгадненьня пытаньня з адпаведнымі арганізацыямі, склікаецца нарада райінструктараў, брыгадзіраў, вылучаных для ўдзелу ў перавыбарах АПБ ад другіх саюзаў, дзе прапрацоўваюцца асноўныя палажэньні аб перавыбарах, разьмеркоўваюцца брыгадзіры па раёнах: у раёнах склікаецца раённая нарада прафактыву, дзе таксама прапрацоўваецца памянёнае палажэньне і вызначаецца дакладна мерапрыёмствы па правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

### Практычная перавыборчая работа рабачкомаў.

а) Рабачком складае плян справаздачна-перавыбарчай кампаніі, на аснове гэтага пляну праводзіць шырокія сходы прафактыву, групавыя сходы па эканоміях трактарных калён, сходы рабочых ударнікаў, з растлумачэньнем задач перабудовы саюзнай работы, парадку перавыбараў, новага палажэньня аб структуры саюзу, інструкцыі ўсеЦСПС аб перавыборах.

б) Праводзіць шырокую мабілізацыю ўсіх культурных сіл і працягвае шэфствуючыя арганізацыі, арганізуе шырокае асьвятленьне ў насьценгазэце і мясцовым друку работы рабачкому, Усе культасветныя арганізацыі-клюбы, чырвоныя куткі і г.д. павінны прыстасаваць сваю работу да асьвятленьня ходу падрыхтоўкі к перавыбарам рабачкому. Рабачкомы складаюць самаправерчныя брыгады для праверкі работы рабачкомаў; у склад брыгады ўваходзіць ня менш 6 чалавек. Тэрмін работы самаправерачных брыгад павінен быць ня менш тыднёвага.

в) Галоўную ўвагу самаправерачныя брыгады павінны зьвярнуць на наступныя пытаньні: у якой ступені рабачком кіруе сацспаборніцтвам, арганізацыя ўдарных брыгад і асабліва ленінскага прызыву; становішча выкананьня прамфінпляну і зьніжэньне сабекошту выпуску прадукцыі; правядзеньне ў жыцьцё адзінаначальля; удзелу рабачкому ў калектывізацыі і сувязь з 25-ю тысячнікамі; барацьба за рэальную зарплату; як праведзена с./г. вясеньняя кампанія і роля ў гэтым рабачкому; выкананьне калдагавору, як абаюднага абавязку; мабілізацыю шырокіх мас батрацтва на правядзеньне генэральнай лініі партыі на барацьбу з скажэньнямі калгаснага будаўніцтва; уцягненьня батрацтва ў калгасы і іх замацаваньня; каапэраваньня батрацтва і льготы пры ўступленьні ў каапэ-

рацыю; уцягненьне ў прамыслова-сама-
ужную каапэрацыю; уцягненьне ў са-
з не арганізаванага батрацтва; выка-
аньне працдагавораў з боку наймаль-
ікаў і кантроль з боку сельрабачкому;
работу сельрабачкомаў батрацка бед-
яцкіх груп; ліквідацыю няпісьменасьці
культработу сярод батрацтва.

Работа самаправерачных брыгад у
ытаньнях сацспаборніцтва і ўдарніцт-
а павінна быць увязана з агульнай
раверкай сацспаборніцтва, згодна ды-
эктыў ЦК нашага саюзу.

Самаправерачныя камісіі ніякіх дак-
адаў аб сваёй рабоце ня робяць, а
ыступаюць у спрэчках па справаздач-
ым дакладзе рабачкому, увесь матар'-
л здаюць у рабачком для падвядзеньня
ынікаў.

**лепшых ударнікаў і актыўных батракоў у рабачком і прафком.**

Пры правядзеньні справаздачна-пе-
равыборчых сходаў неабходна дабіцца
аступнага:

а) 100% яўкі на справаздачны і
ыборчыя сходы сяброў саюзу і правяд-
еньне сходу пры ўмове яўкі ня менш
5% працуючых на даны дзень.

б) Абсалютнай большасьці галасоў
біральшчыкаў, прысутнічаючых на вы-
орчых сходах павінны атрымаць абіра-
мыя сябры рабачкому.

в) Рашучае аднаўленьне кіруючага
кладу выбарных прафработнікаў за лік
епшых сельска-гаспадарчых рабочых,
дарнікаў і актыўных батракоў.

г) Адводу з складу рабачкому асоб,
кія зьвязаны з сваёй гаспадаркай, не
абясьпечваючых на справе правядзеньне
енэральнай лініі партыі ў перабудове
аюзнай работы.

д) Правядзеньне гэтых мерапрыем-
тваў можа быць дасягнута толькі пры
азвіцьці шырокай крытыкі і самакры-
тыкі сярод рабочых мас і батрацтва,
разгортаньні саюзнай дэмакратыі, ўз-
мацненьні правядзеньня сацыялістычнага
спаборніцтва на лепшую яўку і боль-
шую актыўнасьць на справаздачна-пе-
равыборчыя сходы ўсіх сяброў саюзу і
працуючых.

**Дапамога пасьля перавыбароў.**

1) Пасьля сканчэньня перавыбараў
неабходна правесьці шырокую нараду
ўноў абранага прафактыву з пытаньня-
мі аб выніках справаздачна-выборчай
кампаніі і чарговых задач саюзнай ра-
боты.

2) Па ўсіх ўноў абраных вучастко-
вых цэхавых камітэтах па эканоміях, хута-
рах, брыгадах, сел. і прафрабачкомах па-
вінна быць праведзена інструктаваньне
ўноў абранага прафактыву, а таксама
правесьці растлумачэньне правоў і аба-
вязкаў вучастковых, цэхавых камітэтаў
і прафупаўнаважаных.

Усе таварышы, камандыраваныя ў
дапамогу па правядзеньні справаздач-
на-перавыборчай кампаніі, павінны за-
стацца на тэрмін 3-х дзён па замаца-
ваньні на праведзенай работы, па ака-
заньні непасрэднай дапамогі ўноў абра-
ным рабачкомам, а таксама яны павін-
ны адлічыцца на агульных сходах рабо-
чых аб сваёй працы.

Акруговыя і раённыя інструктары
праводзяць сыстэматычна штодзённа
практычную работу па дапамозе рабач-
комам арганізаваць і праводзіць культ-
масавую палітыка-выхаваўчую працу ся-
род сельгаслесрабочых, батрацтва, усту-
піўшых у калгасы, а таксама і сярод
батракоў і пастушаства, працуючых у
індывідуальных гаспадарках і грамадз-
кіх пастухоў.

Інструкцыя аб перавыбарах саюз-
ных ячэек пры гэтым прыкладаецца.

Узгоднена з УсеЦСПС.

## Інструкцыя аб перавыбарах нізовых саюзных органаў.

### *I. Агульнае палажэньне.*

1. Справаздачна-перавыбарчая кам-
анія рабачкомаў і вучастковых камітэтаў
ўгасаў, леспрамгасаў, машына-трактар-
ых станцый, сельрабачкомаў, прафко-
маў і мясцкомаў павінна праводзіцца
мэтадам (спосабам) разгарнутага сацыя-
лістычнага спаборніцтва на падставе
шырокай пралетарскай самакрытыкі. Усе

сельскя-гаспадарчыя і лясныя рабочыя павінны быць прыцягнуты да актыўнага ўдзелу ў гэтай кампаніі.

Сацыялістычнае спаборніцтва праводзіцца, як паміж саўгасамі, леспрамгасамі, сельрабачкомамі, прафкомамі і мясцкомамі, так і паміж асобнымі вучасткамі, эканоміямі, майстэрнямі, цэхамі, калёнамі і г. д. на лепшую яўку на справаздачныя і прадвыбарныя сходы, на найбольшую актыўнасьць у абмеркаваньні работы саюзнага органу. Сацыялістычнае спаборніцтва неабходна праводзіць таксама і паміж клюбамі, чырвонымі куткамі батрака, насьценнымі газэтамі на лепшае абслугоўваньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі,

2. Перавыбары рабачкомаў, сельрабачкомаў, прафкомаў, і мясцкомаў праводзяцца ў ва ўсіх саўгасах, леспрамгасах, машына-трактарных станцыях, прадпрыемствах і ўстановах, незалежна ад сканчэньня тэрміну іх паўнамоцтва.

3. Перавыбары не праводзяцца ў тых рабачкомах, сельрабачкомах, прафкомах і мясцкомах, якія датэрмінова, ці зноў былі абраны ў працягу 2 або 3 месяцаў, да пачатку справаздачна-перавыбарчай кампаніі, пры абавязковай умове, што работа гэтых саюзных органаў забясьпечвае разгарненьне сацыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, выкананьне прамфінпляну, удзел у калектывізацыі і г. д.

УВАГА: 1. Згодна пастановы Прэзыдыуму БРК перавыбары праводзяца ва ўсіх рабачкомах, якія пераабіраліськ да красавіка г. г.
2. Перавыбары не праводзяцца ў райпрафкомах і сельрабачкомах пераабраных у працягу красавіка-мая. Таксама не пераабіраюцца ўноў арганізаваныя рабачкомы (напрыклад па мэліарацыйных работах).

4. У гэту кампанію павінна быць акончана рэарганізацыя саюзных органаў на аснове палажэньня ЦК саюзу (надрукаванага ў бюлетэне Белвёска №6 (41) ад 5/V 1930 г. і ў газэце „Сельхозлесрабочий“ №44).

5. Перавыбары рабачкомаў у саўгасах, прафкомаў, сельрабачкомаў і мясцкомаў праводзіцца ў такім парадку:

**Рабачкомаў у саўгасах.**

а) У саўгачах, дзе колькасьць работаючых больш 200 чаловек, агульнасаўгаскі рабачком абіраецца на агульных і зьменных сходах, па вучасткам, майстэрням, эканоміям. Для гэтага рабачком устанаўляе па кожнаму вучастку, майстэрні, эканоміі колькасьць членаў і кандыдатаў, падлягаючых ад іх да абраньню ў новы склад агульнасаўгаскага рабачкому.

**Вучастковыя камітэты.**

б) На вучастках, якія маюць колькасьць працуючых звыш 200 чалавек, вучастковы камітэт таксама абіраецца на агульных і зьменных сходах у тымжа парадку, як і агульнасаўгаскі рабачком.

**Зацьверджаньне канфэрэнцыяй.**

в) У саўгасах і на вучастках, згодна пунктаў „а“ і „б“ для зацьверджаньня абраных па вучасткам, майстэрням, эканоміям на агульных і зьменных сходах членаў і кандыдатаў у агульнасаўгаскі рабачком, склікаецца агульнасаўгаская канфэрэнцыя і для зацьверджаньня абраных у вучастковы камітэт—склікаецца вучастковая канфэрэнцыя.

г) У выпадку матываванага адводу канфэрэнцыяй каго-небудзь абранага ў агульнасаўгаскі рабачком, ці вучастковы заместа яго на канфэрэнцыі абіраецца другі член рабачкому ці вучасткому, ад якога першапачаткова быў абраны член рабачкому.

д) Норма прадстаўніцтва, парадак правядзеньня выбараў дэлегатаў на агульнасаўгаскую, ці вучастковую канфэрэнцыю устанаўліваецца рабачкомам і сходы склікаецца ў не рабочы час.

**Выбары на абульных сходах.**

е) У тых выпадках, калі у саўгасах работаючых менш 200 чал., выбары рабачкомаў праводзяцца непасрэдна на агульных і зьменных сходах (без зацьверджаньня канфэрэнцыяй) па вучасткам, майстэрням, эканоміям, з абмеркаваньнем на ўсіх зьменных сходах сьпіску раней вылучаных кандыдатур і падліку галасоў, паданых на ўсіх сходах за тую, ці іншую кандыдатуру, пасьля чаго рабачком лічыцца канчаткова абраным.

ж) На вучастках, маючых колькасьць працуючых менш 200 чвл, выбары вучастковага камітэту праводзяцца ў парадку, паказаным у п. „е“.

з) Колькасны склад рабачкому, вучасткавага камітэту устанаўліваецца ў залежнасьці ад колькасьці сталых і сэзонных рабочых і служачых, абслугоўваемых:

1) Рабачком ад 25 да 100 чалавек — 5 членаў, 2 кандыдата, рабачком ад 100 да 300 чалавек—11 членаў, 3 кандыдата, рабачком ад 300 да 500 чалавек—15 членаў, 4 кандыдата, рабачком звыш 500 чалавек—21 член, 7 кандыдатаў.

2) Вучастковыя камітэты ад 25 да 100 чалавек—5 членаў, 2 кандыдата, вучастковыя камітэты звыш 100 чалавек —11 членаў, 3 кандыдата.

### Выбары рабачкомаў і вучасткомаў у леспрамгасах.

і) У леспрамгасах, дзе колькасьць працуючых звыш 200 чалавек, агульналеспрамгаскі рабачком абіраецца на агульных сходах членаў саюзу па лесавучасткам, цэхам, пунктам сплава. Для гэтага рабачком устанаўляе па кожнаму лесавучастку, цэху, базе і г. д. колькасьць членаў і кандыдатаў, падлягаючых ад іх да абраньню ў новы склад агульналесапрамгаскага рабачкому.

### Выбары лесавучастковых і цэхавых камітэтаў.

к) Лесавучастковыя, цэхавыя камітэты, дзе працуе звыш 200 чалавек,—лесавучастак, цэхавы камітэт—абіраюцца на агульных сходах членаў саюзу па лесавучасткам, лесаконным трактарным базам, лесазагатоўчым пунктам і пунктам сплава.

УВАГА: На лесавучастках цэхахавых камітэтаў пры наяўнасьці звыш 200 чалавек работаючых, і там, дзе ўмовы дазваляюць скласьці агульныя сходы лесавучасткаў, трактарных, конных баз, лесазагатавіцельных, пунктаў і пунктаў сплава, у гэтых выпадках для абраньня лесавучасткому, цэхавага камітэту склікаецца агульны сход, на якім абіраецца лесавучастком, цэхавы камітэт (без зацьверджаньня канфэрэнцыі).

### Зацьверджаньне канферэнцыяй.

л) У леспрамгасах па лесавучасткам згодна пункту „і“ і „к“, для зацьверджаньня абраных на лесавучастках, цэхавых сходах членаў і кандыдатаў у агульналеспрамгаскі рабачком, склікаецца агульналеспрамгаская канфэрэнцыя, і для зацьверджаньня абраных у лесавучасткавы, цэхавы камітэт—склікаецца вучастковая канфэрэнцыя.

м) У выпадку матывіраваннага адводу канфэрэнцыяй каго—небудзь абранага ў агульналеспрамгаскі і вучастковы камітэты, заместа яго на канфэрэнцыі абіраецца другі член рабачкому, ад якога першапачаткова быў абраны член рабачкому.

н) Норма прадстаўніцтва і парадак правядзеньня выбараў дэлегатаў на агульналеспрамгаскую, ці вучастковую канфэрэнцыю, устанаўляецца рабачкомам і сход склікаецца ў нерабочы час.

### Выбары на агульных сходах.

о) У леспрамгасах, лесавучастках, па цэхам (аб'яднаючым трактарныя і лесаконныя базы), налічваючым менш 200 чалавек работаючых, лесавучастковы, цэхавы камітэты абіраюцца на агульным сходзе членаў саюзу і лічацца канчаткова абранымі.

УВАГА: У тых лесавучастках, дзе па тэрыторыяльным прызнакам немагчыма склікаць агульны сход, лесавучастком абіраецца згодна пунктаў „к“ і „л“.

п) Колькасны склад агульналеспрамгаскага, вучастковага, цэхавага камітэтаў устанаўляецца такім-жа парадкам, згодна цункта „з“.

### Выбары сельрабачкомаў, прафкомаў, мясцкомаў.

р) Выбары сельрабачкомаў, прафкомаў, утвараюцца непасрэдна на агульных сходах членаў саюзу абраным лічыцца той, хто атрымаў большасьць галасоў членаў саюзу на агульным сходзе

с) У тых сельрабачкомах і прафкомах, дзе немагчыма скліканьне агульнага сходу членаў саюзу па правядзеньню перавыбараў, сельрабачком, прафком разьбівае членаў саюзу па вучасткам на якіх маюцца сельпрафўпаўнаважаныя

На гэтых вучастках склікаецца агульны сход членаў саюзу з абмеркаваньнем на іх сьпіскаў раней вылучаных кандыдатур і падліку галасоў, паданых на ўсіх сходах за тую, ці іншую кандыдатуру, пасьля чаго сельрабачком, прафком лічыцца канчаткова абраным.

т) Колькасьць членаў і кандыдатаў сельрабачкому, прафкому, мясцкому устанаўляецца па наступнай норме:

1) Сельрабачком, прафком, ад 25 да 100 чалавек членаў саюзу—5 членаў, 2 кандыдата, сельрабачком ад 100 да 300 чалавек членаў саюзу—9 членаў, 3 кандыдата, сельрабачком звыш 300 чалавек членаў саюзу—11 членаў, 4 кандыдата

2) Мясцком ад 25 да 100 чалавек членаў саюзу - 5 членаў, 2 кандыдата, мясцком звыш 100 чалавек членаў саюзу—11 членаў, 4 кандыдата.

*II. Справаздачна-праверачная частка кампаніі:*

6) Абгаварэньне работы пераабіраемых рабачкомаў, мясцкомаў, сельрабачкомаў, прафкомаў і вучасткомаў утвараецца на асобных агульных і зьменных сходах, па вучасткам, эканоміям, хутарам, брыгадам, групам, а таксама па месцу жыхарства (абшчажыцьце і г.д.)

7) Работу рабачкому і вучасткому могуць абгаварвацы асобныя групы рабочых, занятых на вызначаным вучастку вытворча—грамадзкай работы, па цікавячым іх у сувязі з гэтым пытаньням: вытворчыя нарады—аб ролі рабачкому ў вытворчым жыцьці; ударная брыгада аб кіраўніцтве рабачкома сацыялістычным спаборніцтвам: вынаходцы аб рабоце па вынаходству: рабкоры аб рабоце друку; сходы моладзі, жанчын і г.д.

8) Рабачкомы саўгасаў, леспрамгасаў, вучасткомаў і рэўкамісіі на агульных сходах і канфэрэнцыях дакладаў аб рабоце ня робяць.

Адчыняючы сход, прадстаўнік рабачкому робіць краткае ўступнае слова (у межах 10 ці 15 хвілін) з мэтай характэрыстыкі становішча вытворчасьці і асноўных itoгаў работы рабачкому, сельрабачкому, мясцкому. Пасьля адчыненьня сходу адразу—жа адкрываюцца спрэчкі па абгаварэньню дзейнасьці саюзнай арганізацыі. Па сканчэньні прэній слова прадстаўляецца прадстаўніку рабачкому ў межах рэгламэнта, ня больш 30 хвілін.

9) К праверцы работы і спрвздачнасьці рабачкому, вучасткому на эканоміях, хутарах і г.д. для правядзеньня сходаў і спрвздачнасьці прыцягваюцца ўсе члены камітэту без выключэньня, а ня толькі сталыя.

10) З першых—жа дзён кампаніі з прыцягненьнем рабочых мас разгортвэецца шырокая работа па самаправерцы дзейнасьці усіх саюзных арганізацый у саўгасе і г.д. Самаправерка праводзіцца па асобным відам саюзнай работы, для чаго арганізуюцца добраахвотныя брыгады з актыву, ударнікаў, рабкораў, лёгкай кавалерыі.

Самаправерачныя брыгады, групы ніякіх дакладаў на справаздачных сходах ня робяць, а выступаюць у парадку спрэчак.

11) Уся справаздачная кампанія саправаждаецца арганізацыяй і правядзеньнем прысьвечаных ей масавых форм: жывых газэт, вечароў пытаньняў і адказаў, вечароў самакрытыкі, вывешваньнем плякатаў, лёзунгаў у краявых кутках, у сталовых, клюбах, і г. д.

12) Не пазьней, як у працягу першых 6 дзён, пасьля пачатку кампаніі, рабачком і вучастком выпускаюць нумар сьценгазеты, прысьвечаны сваей рабоце, вывешваюць спэцыяльныя дыяграмы, там, дзе магчыма, выпускаюць спэцыяльныя лістоўкі.

III. *Выбарная частка кампаніі.*

**а) Абірацельная камісія.**

13) Ува ўсіх саўгасах, па вучасткам, цэхам, эканоміям, сельрабачкомам, прафкомам, незалежна ад колькасьці работаючых, для правядзеньня перавыбараў складаюцца вучастковыя абірацельныя камісіі ў складзе ад 3 да 5 чалавек для вучастку, эканоміі, сельрабачкому, прафкому і агульнасаўгаскія ў леспрамгасах у склдзе ад 5 да 7 чалавек. Члены абірацельнай камісіі абіраюцца на канфэрэнцыях, або сходах прадпрыемства па вучастку, цэху, эканоміі на агульным, ці зьменным сходзе.

14) У абавязак абірацельнай камісіі ўваходзіць: а) скласьці пералік кандыда-

таў у новы склад рабачкому саўгасу, вучасткому і рэўкамісіі, уключаючы у яго усіх кандыдатаў, вылучаных рабочымі, б) апублікаваньне вылучаных кандыдатаў, в) прыём адводам кандыдатам, г) забясьпечанасьць правідловага вылучэньня кандыдатаў і выбараў.

### б) Парадак намячэньня кандыдатаў.

15) Кандыдаты ў новы склад камітэту і рэўкамісіі намячаюцца на сходах пры а гаварэньні справаздачы аб рабоце камітэту, на самом выбарным сходзе, а таксама шляхам падачы сьпіскаў асобнымі рабочымі, ці групамі рабочых, за сваімі подпісамі у абірацельную камісію.

16) Не пазьней, чым за 5 дзён да выбарнага сходу, сьпісак кандыдатаў у новы склад камітэту і рэўкамісію вывешваюцца ва ўсіх клюбах, чырвоных кутках, сталовых, у абшчажыцьцёх і службовых памяшканьнях., з указаньнем вытворчага стажа кандыдата і выконваемай ім грамадзкай работы. У публікуемым сьпісу кандыдатаў указваюцца таксама прозьвішча рабочых і служачых, вылучыўшых тую, ці іншую кандыдатуру.

### в) Выбарчы сход.

17. Выбарчы сход склікаецца не пазьней, як праз тыдзень, пасьля абгаварэньня рабочымі справаздачы аб рабоце камітэту ва усіх вучастках, эконміях, на агульных і зьменных сходах.

18. Выбарчы сход можа лічыцца правомоцным толькі у тым выпадку, калі на яго зьявілася ня менш 75 процантаў работаючых у дзень выбараў.

19, Пры адчынены выбарчага сходу абірацельная камісія дакладвае аб колькасьці асоб, якія падлягаюць выбарам у камітэт і рэўкамісію, аглашае сьпісак кандыдатаў, зачытвае паступіўшыя адводы. На агульнасаўгаскай, леспрамгасаўскай і вучастковай канфэрэнцыі абірацельная камісія дакладвае аб ліку галасоў, паданых за кандыдатуру на вучастковых, цэхавых, агульных і зьменных сходах.

20. Галасаваньне кандыдатаў у новы склад камітэту і рэўкамісіі павінна быць выключна пэрсанальным (кожнага ў пасобку). Галасаваньне утвараецца паднятцем рук. Абраным у камітэт лічыцца толькі той, за каго падана большасьць галасоў, прысутнічаючых на сходзе.

21. На выбарчым сходзе парадак галасаваньня устанаўляецца наступны: 1) у першую чаргу галасуюцца кандыдатуры, аглашоныя абірацельнай камісіяй; 2) у другую чаргу галасуюцца кандыдатуры, вылучаныя на самым выбарчым сходзе. Падлік галасоў утвараюць спэцыяльна абраныя сходам асобы.

22. У абвестку дня выбарчага сходу, акрамя выбараў камітэту, рэўкамісіі і зацьверджаньня наказу, ніякіх іншых пытаньняў ня уключаецца.

### г) Наказ.

23. Для абагульваньня прапаноў рабочых па справаздачы саюзных органаў і складаньня на падставе гэтага праэкта наказу на справаздчным сходзе абіраюцца спэцыяльныя камісіі па наказу ня больш 5 ці 7 чалавек (агульнасаўгаская, леспрамгаская, ці вучастковая). У склад камісій трэба уцягнуць актыў і рабочых ударнікаў, ня удзельнічаючых у самаправерачных брыгадах і групах.

24. Перад пачаткам кампаніі рабачком, сумесна з адпаведнымі арганізацыямі, распрацоувае плян яе правядзеньня і уносіць яго на зацьвярдженьне прафактыву саўгасаў, сельрабачкому, прафкому па вучасткам, эканоміям, пасьля чаго публікуе яго у друку, сьценгазэтах, вывешвае ў чырвоных, кутках і г. д.

**Прэзыдыум Беларускага Рэспубліканскага Камітэту Саюзу сельска—гаспадарчых і лясных рабочых.**

## Аб прысылцы картак складу ўноў абраных рабачкомаў

Як ужо вышэй адзначана ў гэтым нумары бюлетэня з 1-га чэрвеня г. г. пачынаюцца па нашаму саюзу перавыбары нізовых саюзных органаў.

Разам з гэтым бюлетэням па ўсіх рабачкомах рассылаюцца карткі складу рабачкомаў і сеткі кульстанаў пры ім (форма № 21 для рабачкомаў і месткo-

маў і форма № 14 для райпрафкомаў і с-рабачкомаў).

Карткі павінны быць запоўнены на ўсе рабачкомы, як на пераабраныя, так і на тыя рабачкомы, якія зараз ня будуць пераабірацца, на картках запаўняемых на такія рабачкомы трэба зрабіць збоку надпіс „не пераабран“.

Для таго, каб мець поўны малюнак аб складзе рабачкомаў, райпрафкомаў і сельрабачкомаў, БРК саюзу сельгаслесрабочых прапануе тым рабачкомам, ў якіх ужо перавыбары прашлі і тым рабачкомаў, дзе перавыбары зараз ня будуць утварацца, карткі складу рабачкомаў запоўніць зараз жа і тэрмінова прыслаць у БРК саюзу.

Рабачкомам, у якіх перавыбары будуць праходзіць на працягу чэрвеня і ліпеня, карткі складу запоўніць на другі дзень пасьля перавыбараў і адсылаць у БРК саюзу.

Інструкцыя аб парадку запаўненьня карткі зьмешчана на адвароце карткі.

Заг. Арг. Сэктарам **Жывіцкі**

Заг. інф. стат. часткай **Юшкевіч**

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей.**
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2135. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.